*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 21 (509) 23 ТРАЎНЯ 2001 г.

# VII З'ЕЗД ТБМ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

## Інфармацыйнае паведамленне

20 траўня ў Менску, у Доме літаратара адбыўся VII з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

На з'ездзе прысутнічала 190 дэлегатаў ад 69 арганізацый ТБМ.

Сярод гасцей з'езду:

Ламека Уладзімір – ад Ураду;

Вячка Станкевіч – сябар Рады БНР.

Павел Латушка – прэс-сакратар МЗС;

Наталля Старынава – упраўленне культуры Менгарвыканкаму;

Аляксандр Падлужны – дырэктар інстытута мовазнаўства НАН;

Таццяна Рошчына – нацыянальнаная бібліятэка;

Георгі Латушка і Сяргей Гардун – праваслаўныя святары, якія вядуць службу па-беларуску;

Леанід Грышук – ад хрысціян веры евангельскай, царквы "Благадаць";

Прадстаўнікі партый і грамадскіх арганізацый Аляксей Кароль, Вінцук Вячорка, Юрась Беленькі, Сяргей Папкоў, Алесь Лозка, Алена Ліпская, Вера Страмкоўская і іншыя.

Прысутнічалі Міхаіл Чыгір і Павел Казлоўскі.

Дыпламатычныя місіі прадстаўлялі:

Ніл Буйэ – рэзідэнт-каардынатар ААН у Беларусі;

Джон Куншталтэр – першы намеснік амбасадара ЗША;

Касіна Го – часовы паверны Японіі ў Беларусі;

Васіль Ткачэнка – дарадца амбасадара Украіны ў Беларусі;

Марыюш Машкевіч – амбасадар Польшчы ў Беларусі.

Асвятлялі працу з'езду карэспандэнты: Радыё "Свабода", "Радыё Рацыя", ГРТ, НТВ, ЛіМ, "Нашай свабоды", "Народнай волі", "Звязды", "Нашай Нівы", "Свободных новостей", "Чырвонай змены", БелаПАН.

У адпаведнасці з парадкам дня з'езд заслухаў вітальныя словы гасцей, што прысутнічалі ў зале, а таксама дасланыя пісьмова. З'езд заслухаў даклады старшыні ТБМ, намесніка, старшыні рэвізійнай камісіі і рэдактара "Нашага слова".

З'езд заслухаў інфармацыю Алега Трусава, Сяргея Запрудскага і Станіслава Судніка па працы над Стратэгіяй развіцця беларускай мовы ў 21-м стагоддзі.

З'езд прыняў:

пастанову "Аб сяброўстве ў Рэспубліканскай Радзе ТБМ".

"Палажэнне аб рэвізійных камісіях Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".

пастанову "Аб распрацоўцы і прыняцці Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі".

"Слова да беларускіх пісьменнікаў"

З'езд прыняў "Дэкларацыю аб беларускай мове".

З'езд прыняў зварот да Вярхоўнага камісара ААН сп. Моры Робінсан.

З'езд абраў новае кіраўніцтва ТБМ на наступныя два гады, а таксама рэдактара газеты "Наша слова".

Старшынём ГА ТБМ імя Францішка Скарыны зноў абраны **Алег Трусаў,** кандыдат гістарычных навук.

Першым намеснікам старшыні ТБМ абрана **Людміла Дзіцэвіч.**

Намеснікамі старшыні ТБМ абраны: **Алена Анісім, старшыня Менскай гарадской** арганізацыі ТБМ і **Сяржук Кручкоў.**

Рэдактарам газеты "Наша слова" зноў абраны **Станіслаў Суднік.**

Абрана Рэспубліканская Рада ТБМ у складзе 52 чалавек і Рэвізійная камісія ў складзе 5 чалавек.

На першым паседжанні Рэспубліканскай Рады ТБМ абраны Сакратарыят ТБМ і рэдкалегія газеты "Наша слова".




Мандат дэлегата VII з'езду ТБМ

## Склад Рэспубліканскай Рады ТМБ

1. Аксак Валянціна
2. Анісім Алена
3. Арлоў Уладзімір
4. Багданкевіч Святлана
5. Банкевіч Генадзь
6. Баршчэўскі Лявон
7. Белы Анатоль
8. Бураўкін Генадзь
9. Гілевіч Ніл
10. Гарэцкі Радзім
11. Грыцкевіч Анатоль
12. Гуркоў Сяргей
13. Дзіцэвіч Людміла
14. Завальнюк Уладзіслаў
15. Запрудскі Сяргей
16. Зуёнак Васіль
17. Іпатава Вольга
18. Кручкоў Сяргей
19. Кузьміч Вольга
20. Лыч Леанід
21. Майсеня Людміла
22. Марачкіна Ірына
23. Палсцюк Валеры
24. Раманцэвіч Валянціна
25. Савіцкі Мікола
26. Санько Зміцер
27. Содаль Уладзімір
28. Трусаў Алег
29. Цыхун Генадзь
30. Ялугін Эрнест

*Усе – Менск*

31. Новік Марыя (Берасце)
32. Савіч Валеры (Пінск)
33. Бабіч Юры (Віцебск)
34. Гаравы Леанід (Гарадок)
35. Гарановіч Віталь (Глыбокае)
36. Камароўскі Мікалай (Орша)
37. Навумчык Іосіф (Віцебск)
38. Ролік Міхаіл (Міёры)
39. Рымша Алесь (Наваполацк)
40. Канунінкава Ніна (Горадня)
41. Місцюкевіч Алесь (Горадня)
42. Пяткевіч Аляксей (Горадня)
43. Суднік Станіслаў (Ліда)
44. Бароўскі Анатоль (Гомель)
45. Паўлоўскі Зміцер (Гомель)
46. Піскун Людміла (Мазыр)
47. Малаш Юрый (Заслаўе)
48. Мацюкевіч Марыя (Салігорск)
49. Лапіцкі Аляксей (Жодзіна)
50. Юркевіч Сяргей (Маладзечна)
51. Булавацкі Міхась (Магілёў)
52. Украінка Сяргей (Магілёў)

## *Няма нічога вышэйшага для нацыі, чым яе мова...*

***На Зьезд Таварыства Беларускай Мовы***

Паважаныя спадарыні і спадары. Паважаныя дэлегаты Зьезду ТБМ. Вітаю і віншую вас з чарговым Вялікім Сходам Таварыства Беларускай Мовы. У такія часіны, калі аднадумцы зьбіраюцца разам і іншыя, гатовыя іх пачуць, трэба, як я лічу, заўсёды і абавязкова паўтараць і ўспамінаць словы Вялікіх беларусаў пра Вялікую Беларускую Мову. Бо няма нічога вышэйшага для нацыі чым яе мова. Гэта каштоўнасьць "нумар адзін", угрунтаваная натуральным правам.

Пра мову народа гэтак жа, як і пра каштоўнасьць жыцьця, не дыскутуюць, бо іхняя існасьць і патрэбнасьць неаспрэчныя і несумненныя. Іх шануюць.

Шмат хто на сьвеце гаварыў пра сваю мову: філёсафы і паэты, навукоўцы і мысьляры. Але ніводзін філёсаф і ніводзін паэт не выказваўся глыбей, чым наш вялікі Багушэвіч: "Шануйце мову нашу беларускую, каб ня ўмёрлі".

Услухаемся і задумаемся. Гэтыя словы ёсьць наймудрэйшы, найкарацейшы і найпрыгажэйшы верш генія. Ніхто на сьвеце пра мову не напісаў лепш.

Мова ў нацыянальным грамадстве існуе на двух узроўнях, паміж якімі няма рэзкай мяжы. Вышэйшы ўзровень мовы дасягаецца праз адукацыю і літаратуру. Нездарма акупанты, якія праводзяць генацыд народу, імкнуцца, перш за ўсё, выбіць асноўнае зьвяно ў грамадзкай сістэме нацыянальнай мовы: нацыянальную школу і нацыянальны друк.

Зычу сябрам ТБМ пасьпяховых справаў і добрых вынікаў у садзеяньні беларускай вышэйшай адукацыі і беларускай агульнаадукацыйнай школе, беларускаму друку і беларускаму слову.

Перамены сьпеюць. Беларусь стане вольнай і вялікай. Ніколі сьвятое стараньне абаронцаў мовы не прападзе надарэмна. Жыве Беларусь!

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***Старшыня Кансерватыўна-хрысціянскай партыі.***

## *Беларуская мова жыла, жыве і будзе жыць*

***Менск, Таварыства Беларускай Мовы, Алегу Трусаву***

Шаноўны Спадар Старшыня!

Дарагія сябры!

Сардэчна віншую дэлегатаў 7-га з'езду ТБМ. Жадаю поспехаў і плённай працы на карысць Бацькаўшчыне. Дзякуй Вам за Вашу руплівасць, розум і шчырую любоў да роднай зямлі. Беларуская мова жыла, жыве і будзе жыць, а ў вольнай краіне яна будзе для ўсіх падмуркам пачуцця годнасці і гонару за свой род.

***Сямён Домаш, Старшыня Каардынацыйнай Рады ГА "Рэгіянальная Беларусь".***

*P.S. На жаль, я знаходжуся па-за межамі Беларусі і не магу асабіста ўдзельнічаць у працы з'езду.*



№ 21 (509) 23 ТРАЎНЯ 2001 г. Наша слова

**Дакументы і матэрыялы VII з'езду ТБМ**

# Даклад старшыні ТБМ Алега Трусава

## "Асноўныя вынікі дзейнасці ТБМ і Рэспубліканскай Рады ТБМ у справаздачны перыяд (красавік 1999 - травень 2001г.)"

**Дарагія сябры!**

Наш чарговы з'езд праходзіць у незвычайных умовах, бо мы сабраліся ў першым годзе новага, XXI стагоддзя і пачатку трэцяга тысячагоддзя нашай эры. Гэта абавязвае нас крытычна ацаніць зробленае рупліўцамі беларушчыны ў мінулым стагоддзі і дакладна акрэсліць свае планы і задачы ў новую гістарычную эпоху. Але спачатку трэба спыніцца на выніках дзейнасці ТБМ за апошнія два гады.

***Арганізацыйная праца структур ТБМ***

У 1999 годзе мы актыўна пачалі выходзіць з доўгага арганізацыйнага крызісу, калі шмат якія структуры ТБМ альбо не працавалі, альбо проста "заставаліся на паперы" і даўно спынілі сваю, нават фармальную, дзейнасць. У сувязі з гэтым Рада ТБМ 27 чэрвеня 1999 года зарэгістравала 23 дзейсныя рэгіянальныя арганізацыі і ліквідавала 63 структуры ТБМ, якія не прайшлі перарэгістрацыю. У гэты час колькасць сапраўдных сяброў ТБМ складала прыблізна 2500 чалавек.

Найпершым клопатам Сакратарыяту была перарэгістрацыя ў Міністэрстве юстыцыі, якая, як вядома, завяршылася толькі 6 верасня 1999 года. Пасля гэтага пачалася штодзённая крапатлівая праца па пастаноўцы на ўлік у мясцовых выканкамах рэгіянальных структураў. Адной з першых атрымала пасведчанне аб рэгістрацыі **Менская гарадская арганізацыя.** Варта адзначыць актыўную дзейнасць апошніх кіраўнікоў менскай гарадской структуры ТБМ сп.сп. Леанарды Мухінай і Алены Анісім.

Зараз адноўлена дзейнасць усіх дзевяці раённых арганізацый, прычым большасць з іх пастаўлена на ўлік мясцовымі органамі улады. У **Менску** дзейнічаюць 130 першасных суполак і рэгіянальных структур, прычым колькасць сяброў ТБМ у іх хутка наблізіцца да 3 тысяч сяброў. Найбольш актыўна працуе Акадэмічная Рада ТБМ, арганізацыі ў 1 і 2 педагагічных каледжах, дзе адукацыя вядзецца па-беларуску, суполка "Берагіня" у 4 нацыянальнай гімназіі ( яна налічвае 320 сяброў), суполкі Лінгвістычнага універсітэта і Беларускага універсітэта культуры. Зараз Менская арганізацыя мае свой асобны рахунак і ўпершыню за ўсе гады вядзе самастойную фінансавую дзейнасць.

Добра працуе **Віцебская абласная арганізацыя**, дзе старшыня Іосіф Навумчык. Амаль ва ўсіх раёнах вобласці створаны структуры ТБМ, і большасць з іх ужо пастаўлена на ўлік. Зараз на Віцебшчыне дзейнічае 21 рэгіянальная арганізацыя ТБМ. Толькі ў апошнія часы створаны суполкі ТБМ у Шумілінскім р-не, у гарадах Браславе і Лепелі.

Шмат намаганняў прыклаў спадар А. І. Місцюкевіч, каб зарэгістраваць **Гарадзенскую абласную** і шэраг раённых арганізацыяў. Сябры Гарадзенскай гарадской арганізацыі лепей за ўсіх арганізоўваюць падпіску на газету ТБМ "Наша слова"; яны бясплатна распаўсюдзілі на Гарадзеншчыне 500 асобнікаў апошняй кнігі Ларысы Геніюш. Зараз тут дзейнічаюць 13 арганізацый, аднак шмат дзе, напрыклад у Шчучыне, Зэльве, Ашмянах, Іўі, Воранаве структуры ТБМ адсутнічаюць і гэтую сітуацыю нам трэба выпраўляць, як гэта зроблена ў Лідзе і Лідскім раёне, дзе нядаўна створана суполка ТБМ у г. Бярозаўка.

Упершыню ў гісторыі ТБМ пад кіраўніцтвам Генадзя Банкевіча была створана і паспяхова зарэгістравана **Менская абласная арганізацыя**. Зараз на Меншчыне актыўна дзейнічаюць 20 структур ТБМ. Тут засталося стварыць нашыя арганізацыі ў Беразіно, Лагойску і Любані.

Някепска ідуць справы на **Магілёўшчыне**, дзе абласную арганізацыю ўзначальвае Міхась Булавацкі. Толькі ў апошнія месяцы тут аднавілі сваю дзейнасць Мсціслаўская і Бялыніцкая арганізацыі ТБМ.

Мы рады таму, што аднавіліся і актыўна працуюць **Гомельская абласная і Гомельская гарадская структуры ТБМ.** Таксама варта ўхваліць актыўную працу Светлагорскай (кіраўнік сп. Болбас) і Мазырскай (кіраўнік спн. Піскун) гарадскіх арганізацый ТБМ. У апошнія месяцы ўзніклі суполкі ТБМ у Рэчыцы і Калінкавічах, аднак Жлобінская арганізацыя фактычна спыніла сваё існаванне. Шмат у якіх раёнах Гомельшчыны структуры ТБМ адсутнічалі раней і не існуюць зараз.

Супярэчную карціну мы маем на **Брэстчыне**. З аднаго боку, тут аднавілася і вельмі актыўна працуе пад кіраўніцтвам Марыі Новік Берасцейская гарадская арганізацыя. Ніколі не спынялі сваёй актыўнасці сябры ТБМ у Баранавічах , Пінску і Пружанах. Упершыню ўзніклі нашыя суполкі ў вёсках Пінскага р-на, паступова ажываюць нашыя структуры ў Івацэвічах. Аднак Берасцейская абласная арганізацыя практычна не існуе. Няма нашых суполак ў Ляхавічах, Ганцавічах, Драгічыне, Жабінцы, Высокім, Іванаве, Лунінцы. І гэты не можа нас не хваляваць. Спадзяюся, што дэлегаты з Брэстчыны дапамогуць сакратарыяту выправіць гэтае прыкрае становішча, бо зараз суполкі ТБМ ёсць толькі ў 9 раёнах.

На сённяшні дзень Таварыства налічвае не менш чым 9000 сяброў, прыхільнікаў беларускай мовы. Яны аб'яднаны ў 106 арганізацый (гарадскія, раённыя, абласныя), 58 з іх ужо зарэгістраваныя ў выканкамах, нягледзячы на перашкоды мясцовых чыноўнікаў.

Актывізавалася дзейнасць нашай арганізацыі **за мяжой.** Створаны суполкі ў Вільні, Рызе, Іркуцку, Маскве, С.-Пецярбурзе, Севастопалі, Нямеччыне. У апошні час ўзніклі структуры ў Беластоку, Празе і Канадзе. Зараз ствараюцца суполкі ТБМ у Варшаве і на Камчатцы.

У апошні час у ТБМ уступілі такія вядомыя ў свеце і нашай краіне людзі, як знаны навуковец Барыс Кіт (Германія), выдатны журналіст, сябар Рады БНР Вячка Станкевіч (ЗША) пісьменнік Віктар Швед (Польшча), грамадскі і палітычны дзеяч Яўген Вапа (Беласток), сужонцы Чыгіры з Менску.

Агулам за справаздачны час аднавілі сваю дзейнасць альбо стварыліся ўпершыню 83 структуры ТБМ на Беларусі і за яе межамі.

Шмат добрых спраў на рахунку "Беларускай музычнай альтэрнатывы" Шаркаўшчынскай раённай арганізацыі. Хочацца адзначыць дзейнасць суполкі Віленскага краю, якую ўзначальвае Юры Гіль. Часцей за іншых яны распавядаюць аб сваёй працы на старонках "Нашага слова". І гэта натуральна, бо ім ёсць што сказаць.

Такім чынам, ТБМ на сёння – адна з самых масавых грамадскіх арганізацый, якая вытрымала пакуты перарэгістрацыі.

Пры Таварыстве створана 8 камісій: арганізацыйная (старшыня – Алена Анісім), адукацыйная (С. Багданкевіч), камісія па зрокавым і гукавым афармленні асяроддзя (С. Кручкоў), па сувязях з замежнымі краінамі (С.Запрудскі), па культуры мовы, па тапаніміцы і гістарычнай сімволіцы (А. Грыцкевіч), тэрміналагічная (Я. Стэпановіч), выдавецкая (К. Дадзькоў). Усе камісіі праводзілі актыўную працу, за выключэннем камісіі па культуры мовы. Іх справаздачы будуць апублікаваныя ў "Нашым слове" з тым, каб рэгіянальныя структуры стваралі аналагічныя камісіі і праводзілі падобную канкрэтную працу, прадугледжаную Статутам Таварыства па наданні беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай.

Напрыканцы 1999 года аднавіў сваю дзейнасць бацькоўскі камітэт. У яго ўваходзяць бацькі, дзеці якіх вучацца ці дамагаюцца навучання на беларускай мове. Бацькоўскі камітэт апублікаваў абвестку ў незалежных СМІ, а таксама ў "Звяздзе". Гэта дало яму магчымасць распачаць стварэнне банка дадзеных пра настаўнікаў, якія могуць і хочуць працаваць у беларускай школе, а таксама дзяцей, якія хочуць атрымаць адукацыю на роднай мове. Сябры бацькоўскага камітэта наведваюць школы і дашкольныя ўстановы, сустракаюцца з кіраўніцтвам органаў народнай адукацыі, звяртаюцца пісьмова ва ўрад Беларусі па пытаннях мовы навучання. Добра было б, каб такія бацькоўскія камітэты ўтвараліся ў абласных гарадах і раённых цэнтрах.

Пры ТБМ створана і паспяхова працуе бібліятэка і Кніжны клуб, які ўзначаліў З. Цехановіч. Бібліятэка працуе два разы на тыдзень. Зараз у яе фондах каля 1000 адзінак кніг, з іх звыш 500 унікальных беларускіх выданняў канца 19 і пачатку 20 стст. Апошнім часам бібліятэка папоўнілася 57 унікальнымі кнігамі, якія Таварыства атрымала ў дар з Амерыкі ад Вітаўта і Зоі Кіпеляў.

Пры Таварыстве працуе яшчэ адна новая структура – Відэаклуб, кіраўнік – Віталь Станішэўскі. Клуб збірае сваіх прыхільнікаў кожны тыдзень. На яго паседжаннях дэманструюцца гістарычныя і фантастычныя відэастужкі ў перакладзе на беларускую мову, а таксама дубляваныя акцёрамі беларускіх тэатраў сусветна вядомыя дзіцячыя мультфільмы.

На Сакратарыяце ТБМ 11 студзеня 2001 года прынята рашэнне аб стварэнні гістарычнага семінару "Ключавыя вузлы нашай гісторыі". Некалькі яго паседжанняў прайшлі з вялікім поспехам.

У адпаведнасці з рашэннем Рады ТБМ з 15 ліпеня 2000г. уступілі ў дзеянне новыя пасведчанні сяброў ТБМ. Зараз іх атрымалі ўжо болей 1000 чалавек. Карыстаючыся выпадкам, я хачу з трыбуны з'езду ўрачыста павіншаваць з атрыманнем пасведчання за нумарам 1000 спн. Святлану Варонік з Берасця, дэлегата нашага з'езду.

**Адукацыйна-выдавецкая дзейнасць ТБМ**

За мінулы год праца Сакратарыяту па стварэнні БНУ актывізавалася. Ініцыятыўная група, якая налічвала каля 60 выкладчыкаў ВНУ, распрацавала Статут і Канцэпцыю будучай установы, якія былі апублікаваныя ў друку і зацверджаныя Рэспубліканскай Радай ТБМ.

Ідзе актыўны збор подпісаў па ўсёй Беларусі за адкрыццё БНУ. Толькі жыхары г. Ліды і Лідскага раёна за апошнія месяцы сабралі больш за 9000 подпісаў за стварэнне БНУ. Улады зараз вымушаны прызнаць існаванне гэтай праблемы, пра што ідзе гаворка на экранах БТ і на старонках афіцыйных газет. Зараз сабрана ўжо каля 50 тыс. подпісаў і гэтая акцыя ўвесь час працягваецца.

28 ліпеня 2000 г. адбылася сустрэча Старшыні ТБМ з Міністрам адукацыі В. Стражавым і іншымі адказнымі супрацоўнікамі міністэрства па пытанні адкрыцця ў Беларусі Беларускага Нацыянальнага універсітэту, у якой таксама бралі ўдзел Старшыня Згуртавання Беларусаў свету "Бацькаўшчына" Радзім Гарэцкі і Прэзідэнт ТБШ Алесь Лозка. Сустрэча была зыніцыяваная віцэ-прэм'ерам Ураду Міхасём Дзямчуком. Старшыня ТБМ перадаў міністру праект Статуту і Канцэпцыю БНУ, а таксама іншыя матэрыялы, звязаныя з яго адкрыццём. Васіль Стражаў упэўніў удзельнікаў сустрэчы, што рыхтуецца дзяржаўная праграма адкрыцця ў вядучых ВНУ Беларусі з 1 верасня 2001г. беларускамоўных плыняў, а таксама паведаміў, што з 31 ліпеня гэтага году пачне выкарыстоўвацца у афіцыйным ліставанні на канвертах рэквізіты, вырабленыя на дзяржаўнай беларускай мове. Зараз вышэйзгаданая праграма перададзена ў Савет Міністраў і чакае свайго разгляду.

Нядаўна, 3 лютага 2001 г. Рада ТБМ прыняла Звароты да будучых кандыдатаў у Прэзідэнты РБ з прапановай уключыць у свае перадвыбарчыя платформы тэзісы пра наданне беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай мовы тытульнай нацыі і пра стварэнне БНУ. Большасць з іх ужо пагадзілася з гэтай прапановай.

21 снежня 2000 г. Сакратарыят ТБМ прыняў заяву з нагоды распрацавання новага праекту "Закона аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" наступнага зместу: "Як нам стала вядома, Нацыянальным цэнтрам законатворчай дзейнасці пры Прэзідэнце РБ распрацаваны праект новага "Закона аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" на рускай мове.

Мы надзвычай абураныя тым, што яго тэкст да гэтага часу не быў апублікаваны ў СМІ з мэтай шырокага грамадскага абмеркавання. Новы праект "Закона аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" ўтрымлівае шэраг палажэнняў, якія разыходзяцца з дзеючым заканадаўствам. Лічым, што прыняццё новага закону у гэтай рэдакцыі мае адну відавочную мэту: надаць законную сілу працэсу знішчэння беларускай адукацыі.

У сувязі з вышэйсказаным, мы заяўляем свой рашучы пратэст супраць прыняцця новага "Закона аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь".

Дзякуючы ціску грамадскасці прыняццё новай антыбеларускай версіі вышэйзгаданага Закону ў Палаце Прадстаўнікоў было затрыманае. Аднак нядаўна яго прынялі без істотных зменаў у першым чытанні і таму пагроза застаецца і нам трэба быць вельмі пільнымі.

У 1999 годзе праведзены шэраг пікетаў: 25 траўня, 29 чэрвеня, 1 верасня, мітынг 10 верасня. Гэта былі акцыі за навучанне дзяцей на беларускай мове, у абарону назвы галоўнага праспекта сталіцы, за адкрыццё БНУ. 28 верасня ТБМ удзельнічала ў акцыі Вольнага прафсаюзу ў абарону беларускай мовы.

Таварыства пастаянна звяртаецца ў розныя дзяржаўныя ўстановы, на прадпрыемствы па праблемах мовы. За два гады Сакратарыятам падрыхтавана больш за 200 лістоў-запытаў, зваротаў, скаргаў, прапаноў. Вынікам нашых стасункаў з Канстытуцыйным Судом стаў дадатак да Кодэксу РБ аб адміністратыўных праваапарушэннях. Артыкул 172/2 гэтага кодэксу "Парушэнне заканадаўства аб мовах", а таксама Указанне прэм'ер-міністра С. Лінга аб неабходнасці ўжывання афіцыйных бланкаў на абедзвюх дзяржаўных мовах, якое было дадзена 5 студзеня 2000 г. кіраўнікам органаў дзяржаўнага кіравання, аб'яднанняў, падначаленых Ураду, кіраўнікам аблвыканкамаў і Менскага гарвыканкаму, - гэта вынік нашай непасрэднай дзейнасці і нашая рэальная перамога.

Сакратарыят неаднаразова хадайнічаў перад рознымі структурамі Міністэрства адукацыі аб захаванні беларускамоўных класаў па просьбе бацькоў, якія звярталіся ў Таварыства. Дзякуючы гэтаму, беларускія класы былі захаваны ў СШ № 191, 180, 37, 35 і гімназіі № 8 г. Менска, мясцовыя ўлады пачалі ствараць беларускі клас у Мазыры.

ТБМ сумесна з ТБШ правялі конкурс на лепшую вясковую беларускую школу па захаванні нацыянальнай гістарычнай і духоўнай спадчыны. У конкурсе прымала ўдзел 50 школ з усіх абласцей краіны.



Дакументы і матэрыялы VII з'езду ТБМ

# Даклад старшыні ТБМ Алега Трусава

## "Асноўныя вынікі дзейнасці ТБМ і Рэспубліканскай Рады ТБМ у справаздачны перыяд (красавік 1999 - травень 2001г.)"

27 чэрвеня 1999 года Таварыства адсвяткавала сваё дзесяцігоддзе. У гэты дзень быў адслужаны малебень за беларускі народ і беларускую мову ў галоўных храмах сталіцы, а таксама па ўсёй Беларусі.

26 студзеня 2000 г. адбылося ўрачыстае паседжанне Рэспубліканскай Рады, прысвечанае 10-ым угодкам "Закона аб мовах", на якім выступілі Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін і Леанід Лыч. А роўна праз месяц 26 лютага сумесна з Саюзам беларускіх пісьменнікаў была праведзеная навукова-практычная канферэнцыя "Закон аб мовах – вынікі і перспектывы. На канферэнцыі адбылася прэзентацыя кнігі "Аняменне. З хронікі зніўчэнння беларускай мовы", падрыхтоўка якой працягвалася 4 гады. Распачынаў гэтую працу прафесар Аляксей Саламонаў. Асноўную працу па рэдагаванні выканала сябра Рады ТБМ Людміла Майсеня. Кніга выдадзеная накладам 1000 асобнікаў ужо амаль цалкам разышлася: атрымала шмат станоўчых рэцэнзій і водгукаў як у Беларусі, так і за мяжою.

У кастрычніку 2000 г. у Менску ТБМ правяло канферэнцыю "Беларуская тапаніміка: гісторыя і сучаснасць", матэрыялы якой зараз друкуюцца ў газеце "Наша слова". Таварыствам выдадзены кішэнныя каляндарыкі з выявамі класікаў беларускай літаратуры Ф. Багушэвічам, Л. Геніюш,У. Караткевіча і Цёткі, а таксама каляндарыкі 10 гадоў ТБМ і Беларуская вайсковая сімволіка. Цікавы каляндарык на 2001 – 2002 гады выдала Магілёўская абласная Рада ТБМ. У 2000 г. пабачыла святло паштоўка, прысвечаная юбілею Ф. Багушэвіча. З удзелам ТБМ выйшлі кнігі Кастуся Тарасава, Алы Кажэры, Алеся Пісьмянкова, Генадзя Бураўкіна. Рыхтуюцца да друку творы Уладзіміра Арлова і Васіля Зуёнка.

Па лініі Таварыства зроблена 50 камандзіровак. Шмат разоў сустракаліся з чытачамі аўтары кнігі "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" вядомыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі Уладзімір Арлоў і Генадзь Сагановіч. Дзесяткі выступленняў па краіне на рахунку сябра Рады Вольгі Іпатавай. Добрую палову Віцебшчыны аб'ехалі Генадзь Бураўкін і Іосіф Навумчык, слухачамі якіх былі тысячы людзей. У арганізацыі сустрэч добра праявілі сябе Баранавіцкая, Пінская і Клецкая арганізацыі.

Трэба адзначыць, што паспяхова праходзіць акцыя Таварыства па бязвыплатнай раздачы беларускіх кніжак для бібліятэк і музеяў, рэгіянальных структур і суполак. Мы раздалі за два гады каля 20.000 асобнікаў кніг.

Дарэчы, сёння дэлегаты з'езда атрымаюць для бясплатнай перадачы ў школьныя, гарадскія і вясковыя бібліятэкі, для прэміявання ўдзельнікаў розных конкурсаў 1.500 кніг У. Арлова "Адкуль наш род" і "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" (у сааўтарстве з Г. Сагановічам).

Выданню газеты ТБМ "Наша слова" будзе прысвечаны выступ галоўнага рэдактара С. Судніка і таму я гэты бок справы апускаю. Пра культурна-асветніцкую дзейнасць ТБМ неўзабаве паведаміць у сваім спавешчанні намеснік старшыні ТБМ сп. Людміла Дзіцэвіч.

### *Фінансавая дзейнасць ТБМ*

Стабілізуецца матэрыяльна-фінансавае становішча аб'яднання. Сродкі Таварыства за 1999 год склалі 1.717.701 тыс. руб. З іх 110.530 тыс. руб. – сяброўскія складкі і 1.597.171 тыс. руб. – ахвяраванні.

Гэтыя сродкі былі выдаткаваныя на арэнду памяшкання (264.389 тыс. руб.), аплату камунальных паслугаў (429.907 тыс. руб.), тэлефонных размоў і Інтэрнет (474.827 тыс. руб.), на заробак (262.675 тыс. руб.), іншыя выплаты (191.887 тыс. руб.). Адлічэнні на сацыяльныя патрэбы склалі 97.016 тыс. руб. Балансавы прыбытак (2.456 тыс. руб.) пайшоў на аплату падаткаў і штрафу. Невядома за што нас аштрафавалі на 37.111 тыс. руб. Неразмеркаваная страта за 1999 г. склала 35.712 тыс. руб.

Сродкі ТБМ у 2000 г. складаліся з дабрачынных ахвяраванняў юрыдычных і фізічных асоб 4.575.366 руб. і сяброўскіх складак 277.999 руб. Усяго іх было атрымана 4.853.365 руб.

Атрыманыя сродкі за 2000 г. накіраваны на:
- Аплата арэнды памяшкання – 680.458 руб.
- Аплата камунальных паслуг – 400.902 руб.
- Аплата тэлефонных размоў і паслуг сеткі Інтэрнэт - 1.041.716 руб.
- Заробак – 673.868 руб.
- Адлічэнні на сац. патрэбы – 302.907 руб.
- Іншыя выплаты – 888.749 руб.

Выплат іншаземным юрыдычным асобам, якія падлягаюць абкладанню падаткам да даходы у 2000 г. не было.

Пераацэнка асноўных сродкаў адлюстравана ў бухгалтарскім уліку ў снежні 2000 г.

Неразмеркаваныя сродкі за 2000 г. склалі 384.000 руб.

Улічваючы інфляцыю і цяжкае фінансавае становішча Таварыства, лічу неабходным сябрам ТБМ здаць складкі за 2001 г. да кастрычніка.

### *Грамадска-палітычныя стасункі ТБМ*

Сябры ТБМ прынялі актыўны ўдзел у Усебеларускім з'ездзе 29 ліпеня 2000 года, дзе былі прадстаўлены 48 дэлегатамі. Бралі мы непасрэдны удзел і ў Кнгрэсах дэмакратычных сіл Беларусі.

ТБМ выставіла каля 800 назіральнікаў на апошніх выбарах у Палату Прадстаўнікоў.

Мы прапанавалі Цэнтральнай выбарчай камісіі зрабіць усе бланкі дакументаў, звязаных з выбарамі па-беларуску, што і было зроблена па загаду сп. Ярмошынай. Несумненна, што нашая арганізацыя не застанецца ў баку і ад назірання за ходам прэзідэнцкіх выбараў у гэтым годзе. Пры гэтым мы будзем сачыць, каб на кожным выбарчым участку няўхільна выконваўся Закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" і артыкул 50 дзейнай Канстытуцыі. Мы таксама настойліва прапануем мясцовым уладам зрабіць усе запрашэнні на выбары (як гэта было і ў савецкія часы) па-беларуску.

Дзейнасць Таварыства даволі шырока асвятляецца ў прэсе. Мы асабліва ўдзячныя "Народнай Волі" і яе галоўнаму рэдактару Іосіфу Сярэдзічу. Гэтая газета амаль штодня друкуе нашыя матэрыялы. Дарэчы, амаль усе супрацоўнікі рэдакцыі з'яўляюцца сябрамі Таварыства.

Ніколі не адмаўляюць нам і іншыя газеты, як незалежныя "Наша свабода", "Наша Ніва", "Беларуская маладзёжная", "Рабочы", "Беларускі час" ,так і дзяржаўныя "Культура", "ЛіМ", "Чырвоная змена", "Раніца", "Голас Радзімы", "Звязда", "Настаўніцкая газета", часопісы "Роднае слова", "Бярозка" і "Полымя".

Аднак нас вельмі непакоіць тая кампанія,якая зараз разгарнулася на беларускім радыё і тэлебачанні па дэскрыдытацыі і зняважэ беларускай мовы, гісторыі, культуры, сімволікі. Мы рашуча адмаўляем нападкі на творчасць самага вядомага беларускага пісьменніка Васіля Быкава і іншых сумленных прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. Разам з тым нас непакояць некаторыя публікацыі на старонках незалежных выданняў, дзе ў нядобрым святле падаецца дзейнасць нашых знакамітых пісьменнікаў Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Вольгі Іпатавай і іншых. Спадары дэмакраты! Адумайцеся, няўжо Вы не разумееце да якіх разбуральных вынікаў можа прывесці такая журналісцкая дзейнасць.

Карыстаючыся выпадкам, я хачу выказаць шчырую падзяку за актыўную беларускую стваральную пазіцыю незалежным радыёстанцыям: "Свабода", "Рацыя", "Балтыйскія хвалі", а таксама супрацоўнікам агенства БелаПАН. Дзякуючы іх штодзённым перадачам і публікацыям вядомасць і папулярнасць Таварыства пашыраецца і расце з кожным днём.

Умацавалася і міжнародная пазіцыя ТБМ. Нашых сяброў часта запрашаюць на розныя канферэнцыі і сімпозіюмы у розных краінах свету.

Добрыя стасункі мы зараз маем з беларускім ПЭН-цэнтрам, нацыянальна-адраджэнскімі арганізацыямі Валіі, Шатландыі і Ірландыі, таксама Украіны, Польшчы і Чэхіі.

17 снежня мінулага года адбылася сустрэча старшыні ТБМ з амбасадарам АБСЕ Хансам-Георгам Вікам, на якой ён атрымаў падрабязную інфармацыю аб нашай дзейнасці.

Цесныя кантакты мы падтрымліваем з амбасадамі ЗША, Германіі, Польшчы, Італіі, Чэхіі, Індыі і іншых краін. Мы ўхваляем той факт, што большасць афіцыйных папер у беларускія ўрадавыя структуры амерыканскія дыпламаты пішуць па-беларуску і заклікаем іншых дыпламатаў браць з іх прыклад.

Дзякуючы спрыянню сп. Урала Латыпава і Міхася Хвастова добрыя працоўныя стасункі склаліся зараз у ТБМ з Міністэрствам замежных спраў Беларусі. Вядзецца актыўнае супрацоўніцтва з Міністэрствам абароны. Сябры ТБМ пад кіраўніцтвам сп. сп. Вольгі Кузьміч і Станіслава Судніка працуюць зараз над перакладамі вайсковых статутаў на беларускую мову. Добрыя працоўныя кантакты склаліся ў нас з рэктарамі БДПУ імя Танка і Беларускім лінгвістычным універсітэтам.

З кастрычніка мінулага года ТБМ актыўна працуе над распрацоўкай Стратэгіі развіцця беларускай мовы у XXI ст. і Дэкларацыяй аб беларускай мове. Інфармацыю аб гэтым Вы пачуеце у другой палове дня нашага з'езду.

Такім чынам можна сцвярджаць, што за два гады пасля з'езду арганізацыя вырасла структурана і ўмацавала свае пазіцыі.

Нашы асноўныя задачы на будучыню:
- барацьба супраць уціску з боку ўлад на беларускую мову;
- садзейнічанне зберажэнню і развіццю нацыянальнай культуры і народных традыцый, гістарычнай памяці, фарміраванню нацыянальнай і гістарычнай свядомасці;
- аказанне неабходнай падтрымкі ў сферы нацыянальна-культурнага развіцця беларусам, якія жывуць за межамі Беларусі;
- змаганне за адраджэнне на Беларусі нацыянальнай асветы, дашкольных устаноў і школ усіх тыпаў, ВНУ з выкладаннем усіх дысцыплін на беларускай мове;
- забеспячэнне ўмоў для бесперапыннай адукацыі на беларускай мове;
- адкрыццё БНУ.
- пашырэнне культурных сувязяў беларусаў з народамі свету дзеля прапаганды беларускай і засваення здабыткаў сусветнай культуры;
- дапамога ўсім грамадзянам Беларусі небеларускага паходжання ў авалоданні беларускай мовай, набыцці трывалых ведаў ў галіне беларускай гісторыі і культуры;
- павелічэнне накладу газеты "Наша слова" за кошт падпісчыкаў і рознічную продажу;
- актыўны выхад у Інтэрнет, стварэнне ўласных сайтаў і WEB-старонак;
- стварэнне не працягу двух гадоў структур ТБМ ва ўсіх беларусіх гарадах і буйных мястэчках;
- актывізаваць працу з моладдзю, стварэнне суполак ТБМ у школах, сярэдніх спецыяльных навучальных установах і ВНУ.

Мы спадзяёмся, што новае кіраўніцтва ТБМ улічыць тыя недахопы, якія былі адзначаны ў гэтым дакладзе і наша арганізацыя у новым XXI стагоддзі разам з усёй беларускай супольнасцю неўзабаве будзе існаваць і дзейнічаць у дэмакратычнай, незалежнай Беларусі, складовай частцы новай Еўропы.

*Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны Алег Трусаў.*

## Склад Рэвізійнай камісіі пры Рэспубліканскай Радзе ТБМ

1. Кійко Мікола – старшыня
2. Лавіцкі Мікола
3. Галай Аркадзь
4. Гюнтэр Барыс
5. Качаноўская Наталля

## Рэдакцыйная калегія газеты "Наша слова"

Вадзім Болбас,
Міхась Булавацкі,
Людміла Дзіцэвіч,
Леакадзія Мілаш,
Язэп Палубятка,
Алесь Петрашкевіч,
Людміла Піскун,
Уладзімір Содаль,
Станіслаў Суднік,
Павел Сцяцко,
Алег Трусаў.

## Склад Сакратарыяту ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"

1. Трусаў Алег
2. Дзіцэвіч Людміла
3. Палсцюк Валеры
4. Багданкевіч Святлана
5. Гуркоў Сяргей
6. Бордак Уладзімір
7. Кручкоў Сяргей
8. Запрудскі Сяргей
9. Стэпановіч Язэп
10. Анісім Алена
11. Грыцкевіч Анатоль
12. Мухіна Леанарда
13. Навасельская Таццяна
14. Стральцоў Алесь
15. Таболіч Алена
16. Кавалевіч Дыяна

## Пастанова VII з'езду ТБМ "Аб сяброўстве ў Рэспубліканскай Радзе ТБМ"

Сябар Рэспубліканскай Рады ТБМ у адпаведнасці са Статутам абіраецца на чарговым з'ездзе тэрмінам на два гады.

Калі сябар Рэспубліканскай Рады без уважлівых прычынаў на працягу года тры разы не прысутнічае на паседжаннях Рады альбо на працягу года не плаціць сяброўскія складкі, ён аўтаматычна выбывае са складу Рады ТБМ.

Факт спынення сяброўства ў Рэспубліканскай Радзе канстатуецца на адпаведным паседжанні вышэйзгаданай арганізацыі, і інфармацыя аб гэтым змяшчаецца ў газеце "Наша слова".



## АДКРЫТЫ ЛІСТ Т. М. БОНДАР

*"Великая и известнейшая" (па вызначэнню Н. Чайкі), Таіса Бондар!*

*Выпадкова давялося паслухаць Ваша выступленне па радыё 26 студзеня, а потым і 14 красавіка разам з Савіцкім, Лукшам і інш.. Ужо адно тое, што Вы прынялі ўдзел у такой адыёзнай перадачы, як "Размова па сутнасці", дастаткова адмоўна характарызуе Вас: паважаныя людзі туды не ходзяць. Але вы дадалі да пачаткова заганнай характарыстыкі і свае адмысловыя якасці, перакрэсліўшы ў большасці свядомых слухачоў ўсякі інтарэс да Вашай асобы і Вашай творчасці.*

*На жаль, зараз толькі такія выступоўцы маюць доступ да СМІ. Сёння вы можаце палівацъ брудам Васіля Быкава і Уладзіміра Арлова, можаце лічыць "совестью нации" Шамякіна і нават сябе – "вялікую". Час расставіць усё на свае месцы. Не спадзявайцеся, што людзі забудуцца і даруюць Вам такія паводзіны. Дзе Вы збіраецеся жыць далей? Вас жа ні ў Фінляндыю, ні ў Германію не запросяць.*

*Самае абуральнае з Вашага выступлення – гэта Ваша мова: брыдкая сумесь беларускіх і рускіх слоў, густа засмечаная бясконцымі "так сказать" і невыразнае вымаўленне. Так дрэнна не гаварыў яшчэ ні адзін з выступоўцаў па радыё. Нават неадукаваныя даяркі ці часальшчыцы разумаўляюць лепш. Вы зганьбілі ўсіх майстроў прыгожага пісьменства і ўсіх беларусаў сваімі думкамі і сваім агучваннем гэтых думак. Калі ўжо не ўмееце гаварыць, то і не лезьце лепш да мікрафона. Вы нагадвалі змяю на гарачай патэльні, якая шыпіць і пырскае слінай і ядам, пачуваючы сябе вельмі няўтульна. Салодкія хвалебныя словы вядучай наконт Вашых заслугаў гучалі на фоне Вашых слоў насмешкай і здзекам.*

*Мы абмяркоўвалі Ваша выступленне на паседжанні Віцебскай абласной Рады ТБМ 28 студзеня, нават прынялі адпаведную заяву з асуджэннем, спадзяюся яе Вам дашлюць. Але мне хочацца выказаць Вам сваю асабістую непавагу. Вядома, я не магу дазволіць сабе плюнуць некаму ў твар, але і словы тут наўрад ці пераканаюць, можа толькі хто яшчэ задумаецца, перад тым, як сесці побач з тэй жа Чайкай.*

*Не чакаю ад Вас ні адказу, ні тлумачэнняў. А на развітанне, замест: "Да пабачэння", кажу – "ГАНЬБА!!!"*

*Буду ўдзячна, калі ліст прачытае не толькі Т. М. Бондар.*

***Валянціна Гракун, аграном, кіраўнік суполкі ТБМ г. п. Бешанковічы.***

**Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа**
**АБВЯШЧАЕ ПРЫЁМ навучэнцаў на 1 курс (8 клас),**

У ліцэі на паглыбленным узроўні вывучаюцца літаратура, гісторыя, родная і замежныя мовы, іншыя дысцыпліны.

У ліцэй прымаюцца на конкурснай аснове навучэнцы, якія паспяхова скончылі 7 класаў. Інтэрната ліцэй не мае.

Навучане бясплатнае. Асноўная мова навучання – беларуская.

Выпускнікі ліцэя карыстаюцца ільготамі пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі.

Абітурыенты павінны прадставіць у камісію наступныя дакументы: асабістую заяву, медыцынскую даведку, завераны пячаткай табель паспяховасці за 7 клас.

Дакументы прымаюцца па 25 траўня (табель паспяховасці – 28 траўня) па адрасе: 220050, г. Менск, вул. Кірава, 21, пакой сакратара. Тэлефоны для даведак: 2261073, 2273277.

Уступныя экзамены – з 28 траўня па 5 чэрвеня.

## "Разбураць – не будаваць"

*Бог пайшоў,*
*І чаечае пер'е*
*Забяліла сінюю ваду.*
*На душы бязмоўе і бязвер'е...*
***("Бог пайшоў..." Міхась Скобла).***

Увесну 1988 году з госцей з Беларусі ездзілі ў Паброддзе да Вольгі Саковіч. Па дарозе спыніліся каля дому, дзе жыў Пётр Сергеевіч, аб гэтым сведчыла табліца на беларускай і літоўскай мовах "У гэтым доме з 1942 да 1984 г. жыў беларускі мастак, заслужаны дзеяч мастацтваў Літвы Пётра Сергіевіч". Восенню вандруючы па Вільні, зрабіла некалькі фотаздымкаў дому, дзе жыў мастак і табліцы, быццам прадчувала нядобрае. І яно, ужо ў каторы раз здарылася. Пры адкрыцці таблічы Лявон Луцкевіч сказаў: "Хай будзе на іх сумленні, хто мог, але не дапамог зберагчы кватэру мастака для беларускай асяроддзя Вільні". На працягу дзесяцігоддзяў беларусы гуртаваліся ў Пятры Сергіевіча. Толькі намаганнямі ТБК у 1996 годзе у яго гонар адкрылі ўрачыста шыльду. У пачатку траўня гэтага году, яе ўкралі –самую прыгожую і самую каштоўную ў горадзе – 150 кг бронзы. У цэнтры гораду, па вуліцы Антопальскай. Нейкая чорная паласа. Напрыканцы мінулага году ўкралі барэльеф Р. Шырмы, сапсаваны шыльды Бр. Тарашкевічу, К. Каліноўскаму. Зноў Хв. Нюнька піша заявы ў паліцыю. Па гэтаму адрасу трэба пісаць скаргі, біць трывогу. Трэба спадзявацца на лепшае, але ў наш час, напэўна, ніхто не будзе шукаць, не знойдуць, калі чалавечае жыццё нічога не каштуе. Мяне здзіўляюць чалавекі, каторыя не будуюць, а разбураюць, знішчаюць помнікі дзеля матэрыяльнай выгады-часовай, мэтанакіравана робяць зло другім па закону. Спыніцеся! Чытайце Біблію. Памятайце запаведзі. Нічога ў жыцці не праходзіць бясследна. Настане дзень пакарання, калі не самім выканаўцам, то іх нашчадкам. Разбураць – не будаваць.

***Леакадзія Мілаш, г. Вільня.***

## На Беларусі цвіце маладосць

17 красавіка ў Вяліка-лятчанскую сярэднюю школу з розных куткоў Віцебскага раёна з'ехаліся юныя таленты слова на літаратурную вечарыну пад назвай "Маладыя парасткі Віцебшчыны". У госці да гаспадароў завіталі таксама дзве беларускія паэтэсы Людміла Сіманёнак і Тадзіяна Кляшторная, дачка легендарнага беларускага паэта, нашага земляка Тодара Кляшторнага, аўтара шматлікіх зборнікаў паэзіі і паэм, рпасстралянага ў страшэнным 1937 годзе.

Незвычайным быў пачатак мерапрыемства: прысутных вітаў на дасканалай беларускай мове механічны папугай па мянушцы Кеша, які прыляцеў да нас са Злучаных Штатаў Амерыкі. Потым гаспадыня птушкі, паэтэса Тадзіяна Кляшторная, павіталася з юнымі паэтамі, прачытала ўласныя вершы для дзяцей і дарослых.

Узрушыла слухачоў і эмацыянальнае выступленне Людмілы Сіманёнак, маладой віцебскай паэтэсы, якая распавядала аб цудоўнай краіне – Беларусі.

Пасля гэтага вучні Вялікалятчанскай школы урučылі паважаным гасцям вялікі каравай і прадставілі цікавы канцэрт, у час якога гучалі беларускія вершы і песні. І, нарэшце, было дадзена слова асноўным вінавацам свята – вучням школ Віцебскага раёна. Слухачоў уразіла разнастайнасць тэматыкі вершаў, грунтоўнасць і сур'ёзнасць разважанняў дзяцей, запамінальнасць і яскравасць вобразна-выяўленчых сродкаў мовы. І гэта не дзіўна, бо многія з юных паэтаў ужо друкаваліся на старонках раённай газеты "Жыццё Прыдзвіння".

Асаблівае захапленне выклікалі вершы Алега Ляліка (Акцябрская СШ), Міхаіла Патоцкага (Кіраўская СШ), Надзеі Сераговай (Вымянская СШ) і іншых. Прыемна здзівілі прадстаўнікі Сушноўскай СШ: натхняныя выдатным педагогам-беларусаведам С. Глот, - яны прадставілі свой зборнік вершаў "Зярнятка".

Віцебская зямля заўсёды славілася талентамі. Верыцца, што сярод юных паэтаў з'явіцца ў будучым новыя Ф. Скарына, Ул. Караткевіч, Я. Янішчыц, В. Быкаў, ярка заззяюць новыя зоркі на небасхіле беларускай паэзіі.

***Аляксей Фенчанка, старшыня Віцебскай раённай арганізацыі ТБМ імя Ф.Скарыны. 02.05.2001 г.***

## ТВОРЧАСЦЬ ВЯРТАЕЦЦА НА БЕЛАРУСЬ

Нядаўна выдавецтва "Сафія" пры Полацкай грэка-каталіцкай грамадзе выпусціла кнігу Вацлава Панцэвіча пра знакамітага рэлігійнага дзеяча сярэднявечча Язафата Кунцэвіча. Яна ўяўляе сабой агіяграфічны – ці бо царкоўна-жыційны – твор і таму мае сціплую, някідкую назву – "Святы Язафат, япіскап полацкі". Упершыню гэтае адзінае беларускае жыццё пра знанага распаўсюджвальніка і абаронцу ўніяцтва з'явілася на свет у шасцідзесятыя гады. У амерыканскім горадзе Чыкага "Беларускае выдавецкае сябрына" выпусціла яго рэпрынтным спосабам абмежаваным накладам. Неўзабаве кніга стала рарытэтным выданнем. Адраджэнне грэка-каталіцтва ў Беларусі запатрабавала чарговага выхаду твора. Аднак выдаўцы палічылі, што праца Вацлава Панцэвіча не можа быць проста прадубляване. Яны правялі грунтоўную падрыхтоўку да выпуску. У першую чаргу тэкст быў транслітараваны з лацінкі на больш вядомы кірылічны шрыфт. Апроч таго, выдавецтва пераклала некаторыя небеларускамоўныя дакументы, прыведзеныя ў першым, амерыканскім, выпуску. Былі зроблены тлумачэнні тэрміналогіі і ўдакладнены спрэчныя ці памылковыя моманты кнігі. Такім чынам, апісанне жыцця святога Язафата і лёсу яго ных мошчаў стала больш зручным для масавага і часта маладасведчанага ў рэлігійных справах чытача.

## *Да 80-годдзя Таварыства Беларускай Школы*

***У красавіку 2001 года выйшаў першы нумар "Бюлетэня ТБШ". Выданне прысвечана 80-годдзю заснавання Таварыства беларускай школы ў Заходняй Беларусі. "Бюлетэнь ТБШ" так называўся адзін з друкаваных органаў Заходняй Беларусі.***

***Бюлетэнь утрымоўвае багатую інфармацыю пра стан беларускай школы ў 1994-2001 гадах, статут ТБШ, адрасы арганізацый ТБШ, іншыя школьныя звесткі.***


Бюлетэнь ТБШ
Красавік 2001 №1
Менск
Да 80-годдзя ТБШ
з дня утварэння
ў Заходняй Беларусі
і
10-годдзя ГРА
"Таварыства беларускай школы"

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 22. 05. 2001 г.
Наклад 4600 асобнікаў. Замова № 1231.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 274 руб., 3 мес.- 822 руб.
*Кошт у розніцу:* 70 руб.